**Выдавец:**
Прыватнае прадпрыемства «Дарога на Вільню плюс», пасв. №391053932, выд. 12.10. 2009 г. Глыбоцкім РВК.
Перыядычнасць – 1 раз на тыдзень, дзень выхаду – чацвер.

**Выдаецца са снежня 1994 года**

**№13(677)**
**28 сакавіка 2013 года.**
**Кошт свабодны.**

*Са святам Уваскрашэння Хрыстовага!*

Штотыднёвая газета
vglybokaye@tut.by

# Вольнае Глыбокае





**Глыбоцкія камунальнікі адзначылі сваё прафесійнае свята. На здымку: бухгалтар водаканала Даша Клімяцэнка.** *Працяг тэмы на стар.5. Фота Яўгена Самсонава.*

## Адкрыццё спартыўнай залы і адміністрацыйнага будынка СДЮШАР у Глыбокім

■ **Яўген Самсонаў**

**23 сакавіка 2013 года для глыбачан, асабліва для прыхільнікаў фізкультуры і спорту, чарговая знамянальная дата. У гэты дзень адбылося ўрачыстае адкрыццё адноўленай спартыўнай залы і адміністрацыйнага будынка СДЮШАР. Дарэчы, аднаго з лепшых у вобласці.**

Чырвоную стужку перарэзалі намеснік старшыні Віцебскага аблвыканкама Уладзімір Цярэнцьеў і старшыня Глыбоцкага райвыканкама Алег Морхат, а дырэктар СДЮШАР Уладзімір Бука гасцінна запрасіў усіх прысутных у спартыўную залу.

Уладзімір Цярэнцьеў і Алег Морхат выступілі з прамовамі. Да іх далучыліся і другія аратары: Віктар Бынькоў, выканаўчы дырэктар прадстаўніцтва нацыянальнага Алімпійскага камітэта РБ па Віцебскай вобласці, Валянціна Сямчонак, дэпутат ад Празароцкай выбарчай акругі № 37, намеснік старшыні райвыканкама па сацыяльных пытаннях Галіна Унуковіч. Былі агучаны віншавальныя тэлеграмы ад імя міністра спорту і турызму РБ Аляксандра Шамко і нашай зямлячкі Марыны Шкірманковай, бронзавага прызёра Алімпійскіх гульняў 2012 года ў Лондане.





**Урачыстае адкрыццё. У. Цярэнцьеў (злева) і А. Морхат.** *Фота Л. Карніловіч.*

Пасля афіцыйнай урачыстасці адбылося захапляльнае спаборніцтва: спартландыя паміж вучнямі другой гарадской і Лужкоўскай сярэдніх школ.

Аматары футбола ўбачылі цікавы матч. У рамках першынства Рэспублікі Беларусь па міні-футболе глыбоцкая каманда "Мясакамбінат" сустракалася з аршанскай камандай "Экамола". Лік сустрэчы 5:4 на карысць гасцей.

### Браслаўскі раён

# Заграніца не вабіць

■ Чэслаў Якубовіч

**Пайшоў другі год дзеяння міждзяржаўнага пагаднення паміж Латвіяй і Беларуссю аб спрошчаным прыгранічным руху праз мяжу.**

З гэтай нагоды днямі ў Браслаўскім раёне прайшло пасяджэнне адпаведнага каардынацыйнага савета па пытаннях арганізацыі малога прыгранічнага руху жыхароў дзвюх краін. Як адзначалася на ім, такой магчымасцю значна актыўней сталі карыстацца латышы. За няпоўны год больш 8 тысяч грамадзян Латвійскай Рэспублікі ў спрошчаным парадку наведалі азёрны край, сустракаліся з роднымі, вырашалі іншыя свае справы. За такі ж самы час зону ў 50 км на латышскай тэрыторыі, куды можна ездзіць без віз, наведалі толькі каля 100 беларусаў. Адначасова да нас у Беларусь летась праз дзяржаўную граніцу на Браслаўшчыне ўехалі амаль 74 тысячы латышоў з візамі. У адваротным напрамку ў дзяржаву ЕС у 2012 годзе з азёрнага краю выязджала толькі паўтысячы беларусаў, у асноўным прадпрымальнікаў і пенсіянераў. Праўда, магчыма, сёлета колькасць такіх падарожнікаў сярод нашых суайчыннікаў можа ўзрасці, паколькі ў латышоў, верагодна, меней бюракратыі пры складанні і зацвярджэнні спісаў на перасячэнне граніцы ў аблегчаным варыянце. Цікава, што за няпоўны год з абодвух бакоў не было практычна парушэнняў пагранічнага рэжыму руху. Ні латышы, ні беларусы не ездзілі далей устаноўленай зоны перамяшчэння ўглыб граніцы далей 50 км, стараліся не парушаць нормы ўвозу-вывазу рэч і прадметаў, сумарны тэрмін знаходжання 90 дзён. За такія парушэнні можна пазбавіцца ільгот і навогул мець праблемы з атрыманнем уязных віз.

### Полацкі раён

# Пад бокам у гіганта

■ Станіслаў Раманчук

**Адным з самых маладых і багатых у краіне гарадоў Наваполацк стаў невыпадкова, бо тут жыве шмат разумных і ініцыятыўных людзей.**

У адным з аддаленых мікрараёнаў, былым ваенным гарадку Баравуха, яны адкрылі болей 60 розных малых прадпрыемстваў. А вось прыватная навукова-вытворчая фірма "Прайд" даволі ўпэўнена адчувае сябе побач з заводамі-гігантамі айчыннай нафтахіміі. Яна раней за іншых занялася мадэрнізацыяй вытворчасці і знайшла сваю нішу на рынку палімерных матэрыялаў. Асноўным партнёрам калектыва стаў буйнейшы айчынны вытворца халадзільнікаў і пральных машын, ЗАТ "Атлант", для якога паставляе камплектуючыя замест імпартных аналагаў. Для гэтага фірма набыла і ўстанавіла дзве сучасныя прадукцыйныя вытворчыя лініі вытворчасці Карэі. Сталі адгружаць палімерныя кампазіцыйныя матэрыялы пад гандлёвай маркай "Прален" таксама і ў Расію, ва Украіну. Пры гэтым на невялікім, як на Захадзе, смежным прадпрыемстве працуюць толькі 60 спецыялістаў, але вельмі высокай кваліфікацыі. Яны за свае сродкі стварылі шэраг тэхналагічных ліній па выпуску патрэбных рынку матэрыялаў, а таксама клеяў, сплаваў, трубак і каналаў для выпуску халадзільнікаў, маразільнікаў. Тут ёсць і свая лабараторыя праверкі якасці прадукцыі, адпавядаючай міжнародным стандартам. У адпаведнасці з патрабаваннямі часу на дасягнутым "Прайд" не спыняецца, стаў вядомым не толькі ў Прыдзвінні. Канструктары фірмы распрацавалі шэраг сродкаў маскіроўкі ваеннай тэхнікі і аб'ектаў, матэрыялы для абароны трубаправодаў ад карозіі, якія будуць выпускаць на новай лініі.

### Пастаўскі раён

# У роспачы і на дне

■ Кастусь Александровіч

**Занадта часта сталі гаварыць аб быццам пануючай у нас стабільнасці, парадку ва ўсім, хоць у жыцці многае інакш.**

Вось і ў Пастаўскім раёне яшчэ не скончылася зіма, а былі зафіксаваны першыя два выпадкі суіцыдаў. На жаль, пайшлі з жыцця людзі не старыя, працаздольнага ўзросту, маладзейшаму з якіх было толькі 25 гадоў. Гэты малады мужчына жыў у адным з аграгарадкоў, аднак не знайшоў сябе, хоць мог працаваць у мясцовай даволі моцнай гаспадарцы з самымі высокімі ў рэгіёне заробкамі. Аднак замест гэтага жыў за кошт маці, уцягнуўся ў выпіўку і ў канцы канцоў палез у пятлю. Сумна, але цяпер у вёсках стала болей, чым у горадзе маладых мужчын, якія аказаліся на дне грамадства. Вобразам жыцця для такіх выпівох сталі ўцехі толькі з чаркай пры паразітычным ладзе жыцця. У суседнім аграгарадку Андроны таксама 25-гадовы хлопец вырашыў пажывіцца ў недабудаваным жылым доме ў вёсцы Вайшкуны, адкуль украў 13 упаковак вагонкі. Аднак злодзея вылічылі і затрымалі супрацоўнікі міліцыі і за свой учынак ён пойдзе пад суд. У Андронах таксама непрыкметна жыў і 34-гадовы малады мужчына. Ён моцна настрашыў адзінокую старую бабулю з вёскі Пашкава, калі днём уварваўся ў яе дом і сілай адабраў апошнія перад пенсіяй 70 тысяч рублёў. Яшчэ аднаму мужыку з гэтай мясцовасці так захацелася апахмяліцца, што на вачах прадаўца сельмага ў Полаве спёр дзве бутэлькі гарэлкі, а гэта ўжо грабеж.

**Надвор'е ў Глыбокім** www. rp5ru

| | Чацвер 28.03.13 | | | | Пятніца 29.03.13 | | | | Субота 30.03.13 | | | | Нядзеля 31.03.13 | | | | Пнд.01.04.13 | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Мясцовы час | 03:00 | 09:00 | 15:00 | 21:00 | 03:00 | 09:00 | 15:00 | 21:00 | 03:00 | 09:00 | 15:00 | 21:00 | 03:00 | 09:00 | 15:00 | 21:00 | 03:00 | 09:00 | 15:00 |
| Хмарнасць | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Ападкі | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Тэмпература | -10 | -6 | +2 | -4 | -8 | -5 | +1 | -2 | -5 | -4 | +1 | 0 | -2 | 0 | +3 | +1 | -1 | 0 | +3 |
| Ціск | 754 | 755 | 756 | 756 | 756 | 755 | 754 | 752 | 750 | 747 | 745 | 742 | 741 | 740 | 741 | 740 | 738 | 735 | 734 |
| Вільготнасць | 83 | 81 | 36 | 60 | 76 | 65 | 46 | 62 | 71 | 72 | 58 | 71 | 88 | 89 | 64 | 73 | 86 | 91 | 72 |
| Вецер м/сек | 3 Пд-З | 3 Пд-З | 3 Пд-З | 4 Пд-З | 4 Пд-З | 4 Пд-З | 4 Пд-У | 6 Пд-У | 7 Пд-У | 6 Пд-У | 6 Пд-У | 5 Пд | 3 Пд | 3 Пд | 1 У | 1 Пд-У | 1 Пн | 3 Пн-У | 5 Пн |

# Аб самым надзённым

## ПАДЗЕННЕ ЎЗРОЎНЮ ЖЫЦЦЯ РАЗАМ З ФІНАНСАВЫМ КРЫЗІСАМ ЗНОЎ ПАГРАЖАЕ БЕЛАРУСАМ

■ Аляксандр Цішкевіч.

**Аднак нават пры сацыялізме прытрымліваліся закону, каб рост даходаў быў адпаведны павышэнню прадукцыйнасці працы, падмацоўваўся ростам продаж тавараў, агульным паляпшэннем канкурэнтназдольнасці эканомікі.**

Айчынным упраўленцам розных рангаў цяпер можна толькі паспачуваць. Чаго вартае было нядаўняе амаль 8-гадзіннае пашыранае пасяджэнне ўрада Беларусі, на якім прэзідэнт прыгразіў міністрам адстаўкай. Па аналагічнаму сцэнарыю падобныя нарады-разносы адбываюцца нават некалькі разоў у месяц у абласцях. А вось на ўзроўні райвыканкамаў вынікі гаспадарання і аналіз ажыццяўлення, як правіла, завышаных і таму невыканальных задач ( напрыклад, глава вобласці А. Косінец патрабуе сёлета давесці зарплату да 850 $ і атрымаць ураджайнасць збожжа 50 ц/га) падводзяцца на працягу паловы рабочага дня, а то і болей.

На такіх вось пасяджэннях у нас гучыць шмат крытыкі, а цяпер усё больш – розных пагроз разабрацца са звольненымі чыноўнікамі і пасадзіць самых безініцыятыўных у турму. Аднак словы да справы не прышыеш, камандная эканоміка ў Беларусі ўжо даўно здзіўляе сваімі антырэкордамі. Тут ужо і сам кіраўнік дзяржавы не ўтойваў, што за 2011-2012 гады да гэтага часу беларускі рубель абясцэніўся ў 2,9 разы, а харчовыя тавары падаражэлі амаль у 3 разы. Але гэта цалкам заканамерна, бо такі, на жаль, рэальны стан беларускай эканомікі. І хоць спрабуюць наіўных пераканаць, што ў краіне сітуацыя не такая дрэнная, але факты – рэч аб'ектыўная.

Зараз дасведчаныя эканамісты папярэджваюць, што банкаўская сістэма краіны ўшчыльную наблізілася да пачатку новага фінансавага крызісу. Справа ў тым, што летась у Беларусі грашовая маса павялічылася на 46 %, калі рост ВУП у 2012 годзе склаў толькі 1,5 %. Дзякуючы намаганням Нацбанка інфляцыю ўдалося стрымаць на ўзроўні 22 %, бо людзі захоўвалі свае рублі ў банках на дэпазітах з высокімі працэнтамі. Таксама летась прыкладна на столькі (на 21 %) выраслі грашовыя даходы беларусаў пры росце прадукцыйнасці працы за год толькі на 3,1 %.

Аднак нават пры сацыялізме прытрымліваліся закону, каб рост даходаў быў адпаведны павышэнню прадукцыйнасці працы, падмацоўваўся ростам продаж тавараў, агульным паляпшэннем канкурэнтназдольнасці эканомікі. Нічога ў гэтым сэнсе ў нас не назіраецца, наадварот становіцца сёлета горш, бо ўрад павінен вярнуць каля 3 млрд. долараў даўгоў, а беларускія прадпрыемствы ў 3 разы болей (прыкладна 10,5 млрд. USD) па набраных крэдытах. Як справіцца з такой задачай на фоне адмоўнага зноў сальда знешняга гандлю, а аддаваць знешніх пазык трэба больш 15 мільярдаў. Вось чаму просім у Расіі яшчэ 2 млрд. крэдыту на мэты мадэрнізацыі айчыннай эканомікі.

Прэзідэнт усё ж прымусіў беларускія банкі павярнуцца тварам да эканомікі і стаўка рэфінасавання знізілася адразу на 1,5 пункта. Вось з-за гэтага можа даволі хутка пахіснуцца сітуацыя на валютным рынку. А самае сумнае тое, што ў Беларусі практычна няма рэсурсаў, каб забяспечыць высокі эканамічны рост. Ды і ва ўрадзе РБ непакояцца, што вядучыя айчынныя заводы з-за неспрыяльнай сітуацыі на замежных рынках сталі зніжаць аб'ёмы вытворчасці і свой экспарт. У канчатковым выніку прайграе хто? Радавы спажывец, просты чалавек, кожны з нас.

Калі спусціцца на грэшную зямлю, то трэба ведаць, што і сёлета наша саюзніца і галоўны партнёр Расія значна апярэджвае ўсю Еўропу з інфляцыяй за два месяцы ў памеры 1,5 %. За гэты самы час у Беларусі спажывецкія цэны раслі ў 3 разы хутчэй, чым у расіян. У той самы перыяд у 17 з 27 дзяржаў ЕС зафіксавалі зніжэнне цэн-дэфляцыю, а ў 10 еўрапейскіх краінах цэны выраслі толькі на 0,17 % ( у нас на 4,3 %). Такая арыфметыка яўна не на карысць беларусаў.

Іншымі словамі, цяпер нават далёкім ад эканомікі людзям становіцца зразумела, што справы на нашых састарэлых заводах і фабрыках, у многіх калгасах ідуць зусім не ў тым накірунку, як трэба. Вось адкуль жорсткая рыторыка на пасяджэннях і вось чаму членаў ўрада на чале з М. Мясніковічам сталі вельмі сурова публічна крытыкаваць. І дайшло да таго, што мадэрнізацыю на сталічным ААТ "Камволь" чамусьці вырашылі не праводзіць і перанесці яе ў Слонім і на іншую мінскую фабрыку "Сукно". Як бы падобны лёс не напаткаў і многія нашы прадпрыемствы, а ў Год беражлівасці ёсць рызыка, што нас могуць напаткаць праблемы на валютным рынку, як гэта назіралася вясной-восенню 2011 года.

## Дзень за днём

**За студзень-люты сёлета рост цэн дасягнуў 4,3 % пры закладзеных у Беларусі гадавых параметрах інфляцыі 12 %, тры месяцы запар скарачаліся золатавалютныя рэзервы краіны. Беларускае кіраўніцтва зноў папрасіла ў Крамля чарговы крэдыт на 2 млрд. USD. Халодная зацяжная вясна ўскладніць беларусам правядзенне веснавых палявых работ, а калгасам-гультаям крэдыты болей не спішуць. У школах Беларусі і Расіі ўпершыню 2 красавіка пройдуць “урокі саюзнай дзяржавы”, а апошнія званкі для амаль 60 тысяч выпускнікоў школ гэтага года празвіняць 30-31 мая. У самым багатым горадзе краіны Мінску 72 % сем’яў гадуюць толькі адно дзіця. Пасля правалаў штат Міністэрства спорту і турызму РБ будзе скарочаны на трэць.**

# Важнейшыя навіны свету

**Венесуэла.** У бясконцае прапагандзіцкае шоу пераўварылі ўлады смерць і цырымонію развітання з Уга Чавесам, як і рашэнне забальзаміраваць потым яго, “як Леніна”.

**Расія.** Дырэктар Расійскага анкалагічнага навуковага цэнтра прафесар Міхаіл Лічынігер заявіў, што на самой справе ніхто не мог заразіць У. Чавеса ракам і не трэба спекуляцый на гэту тэму.

**КНДР.** У адказ на санкцыі ААН краіна разарвала ўсе мірныя пагадненні з суседняй Карэяй, закрыла граніцу і прыгразіла нанесці першай ядзерны ўдар па “агрэсарах”.

**Карэя.** Газета The Chosunilbo выявіла некалькі дзясяткаў рахункаў новага лідара паўгалоднай КНДР Кім Чэн Ына ў банках Кітая з дэпазітамі на сотні мільёнаў долараў.

**Бельгія.** Еўрасаюз абвінавціў улады Ірана ў сур’ёзных парушэннях правоў чалавека і зрабіў больш жорсткімі санкцыі ў адносінах яшчэ 9 вышэйшых іранскіх чыноўнікаў.

**ЗША.** З-за прымусовага секвестра дзяржбюджэту амаль 800 тысяч амерыканцаў-бюджэтнікаў возьмуць 22 дні водпуску без утрымання, ВУП краіны скароціцца на 0,8 %.

**Балгарыя.** Парламент краіны скасаваў па ініцыятыве ўрада пагадненне ад 2007 года з Расіяй і Грэцыяй па будаўніцтве нафтаправода коштам 2 мільярда долараў па фінансавых прычынах.

**Кіпр.** Новы ўрад краіны пагадзіўся на незалежную ацэнку кіпрскіх банкаў і на перамовы з ЕС аб прадастаўленні фінансавай дапамогі, каб вырашыць праблемы з вялікімі даўгамі.

**Грузія.** Праз 7 гадоў эмбарга Расія нарэшце дазволіла 36 грузінскім вінзаводам пастаўляць іх лепшыя вінаградныя віны і славутую мінеральную ваду “Баржомі” на расійскі рынак.

**Італія.** Суд пакараў 1 годам турмы экспрэм’ер-міністра Сільвіо Берлусконі за незаконнае праслухоўванне і публікацыю ў газеце тэлефонных перамоў ягоных апанентаў.

**Літва.** Шведская кампанія Ikea вырашыла адкрыць у жніўні побач з Віленскім аэрапортам свой першы ў Прыбалтыцы буйны гандлёвы цэнтр, разлічаны і на пакупнікоў з Беларусі.

**Лівія.** Больш 50 чалавек загінулі ад ужывання падробнага самаробнага алкаголю, у яшчэ 400 узніклі праблемы са здароўем, улады могуць увесці поўную забарону на выпіўку.

**Польшча.** Супрацоўнікі Падляшскай мытні падчас спецаперацыі знайшлі ў Беластоку і ліквідавалі нелегальную бензакалонку па гандлі кантрабандным палівам з Беларусі.

**ЗША.** Кампанія Apple прэзентавала гадзіннік iWatch, з якога можна тэлефанаваць, бачыць свайго суразмоўцу і карту месцазнаходжання, над ім працавала каманда са 100 чалавек.

**Швецыя.** На выспе Юргордэн у Стакгольме 7 мая адкрыецца суперсучасны музей славутай групы ABBA з кіназалай на экране 360 градусаў, сцэнай, студыямі запісу музыкі.

## Беларусы застаюцца абсалютнымі лідарамі ў свеце па колькасці атрыманых шэнгенскіх візаў




■ Кірыла Хілька, Наша Ніва

**У 2012 беларусы атрымалі 693 тысячы шэнгенскіх візаў – на 113 тысяч больш, чым летась.**

Калі быць дакладным, у 2012 годзе беларусы атрымалі 693 425 візаў катэгорыі С пры 698 408 заяўках. Пры гэтым больш за 326 000 з іх – візы з правам шматразовага ўезду. Такім чынам, беларусы ў 2012 годзе атрымалі на 113 тысячаў візаў больш, чым у 2011. А ў 2011годзе гэтая лічба на 150 тысячаў перавышала паказчыкі 2010-га.

Больш за ўсіх візаў беларускім грамадзянам выдала Польшча – амаль 292 тысячы (з якіх 192 тысячы мультывізаў). Другое месца трымае Літва з 193 тысячамі выданых візаў (з іх мультывізаў – 61 тысяча), а трэцяе – Германія (амаль 66 тысяч візаў С, 11 з іх – мультышэнген). Візавым «антылідарам» стала Швецыя: яна выдала толькі 3200 візаў (што не здзіўляе на фоне леташніх падзей у беларуска-шведскім дыпламатычным жыцці).Агульная ступень адмоваў у візе застаецца вельмі нізкай. З усіх 698 403 заявак было незадаволена 3535 (ці 0,51%).Па колькасці візаў, выданых на 1000 чалавек, Беларусь зноў стала лідарам. У нас на тысячу чалавек насельніцтва ў 2012 годзе было выдана 73 візы (колькасць вырасла на 12 візаў на 1000 чалавек). У Расіі гэты паказчык складае 41 візу на 1000 чалавек, ва Украіне – 28 візаў (супраць 24 у 2011).

Але Беларусь, у адрозненне ад суседак, пакуль не падпісала з ЕС пагадненне аб спрашчэнні візавага рэжыму і рэадмісіі, таму цана на візу для беларусаў складае 60 еўра, калі для расійцаў і ўкраінцаў – 35 еўра.

# Падзеі, пра якія гаворыць Беларусь

**Мінск.** У сувязі з цяжкасцямі са збытам прадукцыі, вялікімі запасамі непрададзенай тэхнікі сталічны МАЗ перайшоў на скарочаны графік працы – 4 разы на тыдзень.

**Жабінка.** Разам з прадпрыемствамі галіны ў Гарадзеі, Слуцку і Скідалі мясцовы цукровы завод зацверджаны ўрадам РБ экспарцёрам белага цукру ў дзяржавах Мытнага саюза.

**Гродна.** У абласным цэнтры затрымалі аб’яўленага ў міжнародны вышук расіяніна С. Колабава, які п’яны дэбашырыў і збіў праваднікa на борце самалёта Масква-Хургад.

**Пінск.** Да засмучэння жыхароў прыгарадных вёсак Крывічы, Церабень і іншых да іх адмянілі рэйсы па рэках Ясельда і Прыпяць пасажырскіх цеплаходаў з-за іх стратнасці.

**Смалявічы.** Буйны пажар на складзе гатовай прадукцыі і сыравіны ў райцэнтры знішчыў 14 тон туалетнай паперы і папяровых сурвэтак, ніхто з людзей не пацярпеў.

**Ліда.** У адносінах адразу 5 міліцыянераў мясцовага РАУС распачалі крымінальную справу за “перавышэнне ўлады”, яны восенню жорстка збілі двух братоў і здзекаваліся над імі.

**Крычаў.** Былога міліцыянера, дэпутата сельсавета Р. Беспятава Бабруйскі межгарнізонны ваенны суд пакараў 3 млн. рублёў штрафу за спробу крадзяжу 32 мяшкоў калгаснага авёсу

**Маларыта.** Аўтаномны пажарны апавяшчальнік спрацаваў ноччу і выратаваў жыцці 5 чалавек у вёсцы Арэхава, калі з ацяпляльнага катла выпаў вугалёк і пачаўся пажар.

**Мінск.** Рэдактар газеты “Туризм и отдых” Лілія Кобзік абурылася, што за год Беларусь наведалі толькі 118 тысяч турыстаў з-за мяжы, калі ў Літву ездзілі каля 0,5 млн. беларусаў.

**Быхаў.** Да 5 гадоў турмы пагражае двум 17-гадовым жыхарам райцэнтра, з іх адзін раней судзімы, якія тут ноччу скралі чужы аўтамабіль ВАЗ-21013 і вырашылі на ім пакатацца.

**Гродна.** Глава вобласці С. Шапіра прызнаўся ў дзяржуніверсітэце, што асабіста загадаў звольніць з працы аднаго з аўтараў падручніка “Гродназнаўства” Андрэя Чарнякевіча.

**Брэст.** За 7 гадоў да 1000-годдзя горада на тэрыторы Брэсцкай вобласці і прылеглых гістарычных месц паўстане міжнародны культурна-гістарычны турыстычны цэнтр.

**Воранава.** Супраць жыхара вёскі Ляляюшы распачалі крымінальную справу, ён абліў 33-гадовую жонку бензінам з каністры і падпаліў, каб напалохаць, у жанчыны шмат апёкаў.

**Быхаў.** Да 1 верасня, да Дня беларускага пісьменства паспеюць аднавіць некалькі вежаў, добраўпарадкаваць тэрыторыю і законсерваваць фрагменты мясцовага замка-крэпасці.

Краснаполле. Са смуткам жыхары вёскі Лютна даведаліся аб смерці на 76-м годзе жыцця знакамітай зямлячкі, зоркі савецкай эстрады, народнай артысткі Расіі Марыі Пахоменка.

## На «Еўрабачанні-2013» Алену Ланскую спансуе Мікалай Верабей

■ Васіль Сідарчук

**Першы транш на падрыхтоўку спявачкі да конкурсу склаў 230 тысяч даляраў і плюс яшчэ больш 50 000 еўра толькі за апошні месяц.**

"Камсамольская праўда" апублікавала інтэрв'ю з генеральным дырэктарам прадзюсарскага цэнтра "Спамаш" Зміцерам Баранавым, дзе гаворыцца, што фундатарам спявачкі, якая будзе прадстаўляць Беларусь на "Еўрабачанні-2013", з'яўляецца наваполацкі бізнесмэн Мікалай Верабей.

Для вядомага бізнесмена падобнае мецэнацтва не ў навінку. Летась ён узяў на сябе асноўную частку выдаткаў на падрыхтоўку да фіналу "Еврофеста". Ён жа аплачваў выдаткі на "Еўрабачанні" групы "Лайтсаўнд". У суме Мікалай Верабей выдаткаваў тады парадку 350 тысяч еўра.

Для параўнання: італьянскі спецыяльны ліфт для лячэбна-прафілактычных установ каштуе 29 тысяч еўра. Пра неабходнасць яго ўсталёўкі ў сярэдняй школе №8 Наваполацка, дзе вучацца дзецi-інваліды, гутаркі вядуцца ўжо больш за 5 гадоў.

# Панарама ўнутрыабласных падзей

**Віцебск.** У пачатку вясны суб’екты гаспадарання вобласці не заплацілі ўзносаў у Фонд сацыяльнай абароны насельніцтва ўжо звыш 78 мільярдаў рублёў, якія ідуць на выплату на пенсій.

**Орша.** Былы намеснік дырэктара мясакамбіната Мікалай Лісоўскі ўзначаліў раён, аб’ядналы з горадам у адну структуру, рэгіёну паставілі задачу стаць лепшым у вобласці.

**Наваполацк.** Галоўным донарам бюджэта Віцебшчыны зноў стала ААТ “Нафтан”, якое толькі ў студзені пералічыла туды 368,5 млрд. рублёў падаткаў, амаль 40 % усіх даходаў.

**Бешанковічы.** Некалькі пустуючых будынкаў калгаса “Нізгалава” ўлады раёна перадалі ЗАТ “Віцебскаграпрадукт” для стварэння там буйнога свінакомплексу на 5 тысяч галоў.

**Лепель.** Следчы камітэт РБ распачаў крымінальную справу супраць 16-гадовай вучаніцы 11-класа адной са школ райцэнтра, якая дома парадзіла і адразу ж задушыла дзяўчынку.

**Полацк.** Выратавальнікі МНС знялі з ледзяной крыгі, якую панесла вада на рацэ Заходняя Дзвіна адразу 8 рыбакоў на адлегласці 50 м ад берага, дзе была глыбіня 7 метраў.

**Докшыцы.** З-за дзіцячых забаў з запалкамі днём у райцэнтры загарэлася надворная пабудова з дровамі, пажарныя вылілі 2 цыстэрны вады і не далі агню знішчыць павець.

**Сянно.** За разбойны напад на вясковы магазін і пакушэнне на забойства прадаўца суд пакараў раней судзімага 23-гадовага жыхара Віцебска 19 гадамі пазбаўлення волі.

**Орша.** На закрытым працэсе суд пакараў 9 гадамі турмы з канфіскацыяй маёмасці за распусныя сексуальныя забавы з непаўналетнімі і здымкі іх на відэа жыхара гэтага горада.

**Наваполацк.** Дэпутат парламента, старшыня гарадской арганізацыі “Белая Русь” Вадзім Дзевятоўскі зноў папаўся за ўжыванне допінгу на чэмпіянаце свету па лёгкай атлетыцы.

**Полацк.** Пры даглядзе чыгуначнага цягніка на Даўгаўпілс пагранічнікі пад слоем вугалю зноў знайшлі схаваныя 4 пакеты кантрабандных 7,5 тысяч пачак цыгарэт для Латвіі.

**Відзы.** На ўрачыстасцях па падвядзенні вынікаў мінулага года большасць узнагарод пераможцаў спаборніцтва зноў дасталася лепшай гаспадарцы краю “Маяк Браслаўскі”.

**Віцебск.** Супраць беспрацоўнай з абласнога цэнтра распачалі крымінальную справу за незаконныя валютныя аперацыі, за няпоўных 4 месяцы яна зарабіла больш 143мільёны рублёў.

**Докшыцы.** Педагог з райцэнтра Фёдар Палачанін стаў першым лаўрэатам абласной літаратурнай прэміі імя П. Броўкі ў намінацыі “Проза” за сваю кнігу “Шлях да Бога”.

**Паставы.** Адразу 3-х выхаванцаў мясцовай акадэміі футбола ПМЦ выклікалі ў зборную Беларусі (U-19) для падрыхтоўкі на зборах ў Чэхіі да чэмпіянату Еўропы сярод юніёраў.

*Служба інфармацыі “ВГ”.*

■ Ксёндз Аляксей Юркайць,
*адміністратар парафіі Мосар.*

# Звычаі і абрады Вялікадня

**Вялікдзень таксама называюць Пасхай, словам габрэйскага паходжання, якое азначае пераход. Свята Вялікадня ўзяло свой пачатак ад габрэйскай Пасхі, святкаванне якой было звязана з выхадам выбранага народу з Егіпецкай нявολі да Абяцанай Зямлі. Габрэі святкавалі Пасху ў 14-ы дзень луннага месяца Нісан. Менавіта тады адбылася і Хрыстовая Пасха, пераход Езуса праз смерць да хвалы Уваскрасення.**

Такім чынам, Вялікдзень – гэта свята пераходу ад нявολі смерці да свабоды вечнага жыцця, свята аднаўлення ўсяго стварэння ў Езусе Хрысце.

На Нікейскім Саборы ў 325 годзе было прынята, што Вялікдзень у Касцёле будзе адзначацца ў першую нядзелю пасля першага вясенняга паўналуння.

Галоўным атрыбутам велікодных дзён з'яўляецца фарбаванае (пераважна чырвонае) яйка. Паводле біблейскага падання, Марыя Магдаліна прынесла ў падарунак рымскаму імператару Ціберыю чырвонае яйка, як сімвал нявіннасці Хрыста і сведчанне таго, што ўвесь свет адказны за яго пралітую кроў. У язычніцкай міфалогіі яйка сімвалізуе сусветную прастору, адлюстроўвае Сусвет. Акрамя таго, яно – сімвал кругавароту і бясконцасці жыцця. Дагэтуль на Беларусі прынята прыносіць велікодныя яйкі ў падарунак. У многіх краінах, як і ў Беларусі, яйка займае адно з важнейшых месцаў у народных рытуалах. Велікоднае яйка мела магічную сілу, засцерагала жывёлу і поле ад ведзмакоў і нячысцікаў. Першапачаткова яйкі фарбавалі ў чырвоны колер (крашанкі), пазней – размалёўвалі рознымі ўзорамі (пісанкі).

Яшчэ адна неад'емная прыкмета Вялікадня на Беларусі — валачобніцтва. Гуртамі ў 8—10 чалавек вяскоўцы хадзілі па хатах на чале з «пачынальнікам».




Апошні меў самую адказную місію — ён спяваў валачобную песню, якая магла мець да 150 радкоў. Астатнія — «падхватнічкі» — спявалі рэфрэн. У гурце абавязкова былі музыкі. Валачобныя песні мелі магічна-заклінальны характар, услаўлялі гаспадара і яго сям'ю, змяшчалі падрабязны пералік народных святаў і ўказанні на сельскагаспадарчыя працы: «Святы Барыс ляды паліць, зямлю грэець, ячмень сеець… Святы Мікола гарох сеець, па полі ходзіць жыта глядзіць». Гаспадары шчыра адорвалі валачобнікаў пачастункамі, паколькі яны, як лічылася, прыносілі пладавітасць жывёле, ураджайнасць палям, засцярогу ад прыродных стыхій. У сусветнай традыцыйнай культуры валачобныя песні захаваліся і зафіксаваны толькі ў беларусаў.

### Асвячэнне Велікодных страваў.

У кожнай сям'і раніцай у Вялікую Суботу гатуюцца стравы да асвячэння. Традыцыйнымі стравамі перадусім з'яўляюцца: хлеб, які прыпамінае "хлеб жывы, які зышоў з неба"; вяндліны ці велікодны баранак на ўспамін Пасхальнага баранка; а таксама яйко – сімвал новага жыцця, якое нясе Уваскрослы Хрыстос, і соль, якая ахоўвае нас ад сапсаванасці. Велікодны баранак сімвалізуе біблейскага Пасхальнага баранка, які быў прадвесцем Баранка-Хрыста, забітага і ўваскрослага, які Сваёй Крывёй збаўляе ад вечнай смерці. На велікодны стол таксама пажадана падаць асвечаную соль, хрэн і перац, якія прыпамінаюць біблейскія горкія травы.

### Велікоднае сняданне ў коле сям'і.

Урачысты стол накрываецца белым абрусам з залатой стужкай, на які ставяцца галінкі вярбы, асвечаныя яйкі, прарошчаная пшаніца ці буйміна, барвенак ці самшыт. Зеляніна сімвалізуе новае жыццё, атрыманае на святым хросце. У цэнтры стала можа быць змешчаны сямейны пасхал, велікодны баранак і асвечаныя яйкі, хлеб і соль( т. зв. свянцонка). Таксама можна загадзя прыгатаваць асвечаную ваду і крапідла.

Айцец запальвае сямейны пасхал і, уздымаючы яго, кажа:

*– Сапраўды Хрыстос Уваскрос. Аллелюя.*

Усе адказваюць:

*– Дзякуем Пану Богу. Аллелюя.*

Потым айцец чытае ўрывак са Святога Пісання:

*– Слова з Евангелля паводле святога Лукі:*
*(Лк 24, 36-43).*
*Калі яны казалі пра гэта, Сам Езус стаў сярод іх і сказаў ім: "Супакой вам!". Яны, збянтэжыўшыся і спалохаўшыся, падумалі, што бачаць духа. Але Ён сказаў ім: "Навошта палохаецеся і чаму такія думкі ўваходзяць у вашыя сэрцы? Пагядзіце на Мае рукі і на Мае ногі: Гэта Я. Дакраніцеся да Мяне і пераканайцеся: дух не мае цела і касцей, як бачыце ў Мяне." І, сказаўшы гэта, паказаў ім рукі і ногі. А калі яны ад радасці яшчэ не верылі і былі поўныя здзіўлення Ён сказаў ім: "Ці ёсць у вас тут якая ежа?" Яны падалі Яму частку печанай рыбы і сотавага мёду. І, узяўшы, еў перад імі.*
*– Гэта Слова Божае.*

Усе адказваюць:

*– Хвала Табе, Хрыстэ.*

Працягвае далей:

*– Няхай гэтая асвечаная вада нагадае нам нашае хроснае акунанне ў смерць і ўваскрасенне Хрыста, і пакліканне да жыцця ў вольнасці Дзяцей Божых.*

Айцец акрапляе Асвечанай вадой усіх прысутных, увесь дом, панадворак і гаспадарчыя будынкі. Падчас акраплення ўсе могуць заспяваць велікодную песню:

*– Уладарка неба, узрадуйся, аллелюя,*
*Бо Той, Каго пад сэрцам насіла, аллелюя,*
*Уваскрос Ён, як казаў нам, аллелюя*
*Богу за нас маліся, аллелюя.*

Айцец кажа вялікдзённыя жаданні:

*– Умілаваныя, вестка аб Уваскрасенні Хрыста перамяніла апосталаў і напоўніла ўсіх вялікай радасцю. Гэтую радасць адчуваюць усе вучні Хрыста на працягу вякоў. Няхай пачуццё радасці напаўняе і нашыя сэрцы. Жадаю ўсім нам, каб Уваскрослы Хрыстос назаўсёды пасяліўся ў нашым доме, а Яго супакой - у нашых сэрцах. На знак нашай узаемнай дабразычлівасці і любові, якая яднае нас у супольнасць, падзелімся святочным яйком – знакам жыцця. Ахінём нашай малітвай увесь свет і просім нашага Бога:*
*– Ойча наш...*

Айцец працягвае далей:

*– Божа, у гэты дзень Твой Адзінародны Сын перамог смерць і адчыніў нам брамы вечнага жыцця, учыні, каб разам з Ім мы дасягнулі нябеснай гасціны ў Тваім Валадарстве. Які жывеш і Валадарыш на вякі вечныя.*

Усе адказваюць:

*– Амэн.*

Айцец кожнаму падае кавалак асвечанага яйка, пасля чаго ўсе сядаюць за стол і з радасцю спажываюць велікодны пасілак. Пасля снядання ўсе моляцца словамі:

*– За гэты пасілак, за ўсе Твае дабрадзействы і за пакліканне нас да вечнага жыцця праслаўляем Цябе, Божа, праз Уваскрослага нашага Пана Езуса Хрыста, які з Табой жыве і валадарыць на вякі вечныя. Амэн.*



# У Віцебску ўстанаўліваюць помнік патрыярху Аляксію II

**У Віцебску на Успенскай горцы, на плошчы каля Свята-Успенскага кафедральнага сабора, пачаліся работы па ўстаноўцы помніка ў гонар найсвяцейшага патрыярха Аляксія II.**

Зараз будаўнікі рыхтуюць пляцоўку пад фундамент будучага манумента. Бронзавы помнік, вышыня якога разам з гранітным пастаментам складзе каля пяці метраў, будзе ўстаноўлены недалёка ад яшчэ адной святыні – шасціканцовага металічнага крыжа Еўфрасінні Полацкай. Крыж з'явіўся на вяршыні Успенскай горкі ў 1988 годзе з нагоды 1000-годдзя хрышчэння Русі.

Як паведаміў БелаПАН прараб віцебскага ААТ «Будтрэст № 9» Віталь Кручкоў, устаноўка помніка павінна быць завершана да 23 сакавіка. Плануецца, што ўрачыстае адкрыццё манумента адбудзецца 7 красавіка, на свята Благавешчання Прасвятой Багародзіцы.

Характэрна, што помнік Аляксію II будзе знаходзіцца побач з тым саборам, аднаўленне якога ён благаславіў падчас свайго візіту ў Віцебск 25—26 верасня 1998 года. У тыя дні кіраўнік Рускай праваслаўнай царквы наведаў некалькі святыняў горада, у прыватнасці адроджаны Благавешчанскі храм XII стагоддзя, і сустрэўся з падлеткамі з дзіцячай працоўнай калоніі, дзе асвяцíў царкву ў імя святога праведнага Іаана Рускага.

Гэта ўжо другі помнік царкоўнаму іерарху ў Віцебску – у 2008 годзе ў двары кафедральнага касцёла Ісуса Міласэрнага ўстанавілі помнік у гонар Яна Паўла II у знак 30-годдзя выбрання яго папам рымскім.

Нагадаем, у кастрычніку 2012 года помнік Аляксію II быў таксама адкрыты ў Мінску – каля храма ў гонар Усіх святых.

*Таццяна Мацвеева, БелаПАН.*



■ Яўген Самсонаў

# Глыбоцкія камунальнікі адзначылі сваё прафесійнае свята

**Напярэдадні свайго прафесійнага свята ў актавай зале УП ЖКГ Глыбоцкага раёна было людна. Знайшоўшы час, завітала сюды і кіраўніцтва раёна ў асобе старшыні райвыканкама Алега Морхата і намесніка старшыні па будаўніцтве і жыллёва-камунальнай гаспадарцы Аляксея Янкевіча, каб павіншаваць з нагоды свята, падвесці вынікі працы за мінулы год і ўзнагародзіць лепшых работнікаў гаспадаркі.**

Першым на ўрачыстым пасяджэнні ўзяў слова дырэктар УП ЖКГ Глыбоцкага раёна Андрэй Шымковіч. У сваёй прамове, якая суправаджалася відэафільмам аб гісторыі і штодзённым жыцці камунальнікаў, павіншаваў і шчыра падзякаваў сваіх падначаленых за добрасумленную працу, распавёў пра дасягненні гаспадаркі за мінулы год, уручыў узнагароды найлепшым работнікам (была праблема адбору пры вялікай колькасці годных) і выказаў упэўненнасць, што дружны і працавіты калектыў і надалей справіцца з любымі цяжкасцямі для выканання пастаўленых задач.

Што і казаць, крыўдна неяк за камунальнікаў. Усё добрае зробленае штодзённай, нялёгкай, карпатлівай, а часам і гераічнай працай калектыва гаспадаркі – цяпло і святло ў дамах, чыстая вада ў кранах, добраўпарадкаваны, квітнеючы і чысты горад, грамадзянамі ўспрымаецца як належнае і як бы не заўважаецца, а прымаецца як Божая Ласка – дар дарам дадзены. А калі здарацца непаладкі – крайні "стрэлачнік" – ЖКГ.



Культурная праграма. «Бабулькі з Бурацііі».



Падчас урачыстага пасяджэння ў актавай зале Глыбоцкага ЖКГ.

Тым не менш, старшыня райвыканкама А. В. Морхат выказаў сваё задавальненне працай калектыва камунальнай гаспадаркі, асабліва падчас падрыхтоўкі і правядзення прайшоўшага Дня пісьменства, бо менавіта асноўны цяжар праблем ляжаў на плячах камунальнай службы. Больш таго – як адзначыў прамоўца – аўтарытэт старшыні райвыканкама цалкам залежыць ад вынікаў працы калектыва ЖКГ. Была агучана перспектыва далейшага росквіту горада і раёна. Ад імя Віцебскага ўпраўлення жылева-камунальнай гаспадаркі і Глыбоцкага райвыканкама Алег Віктаравіч уручыў узнагароды дырэктару Глыбоцкай ЖКГ Андрэю Шымковічу і іншым работнікам.

З цікавасцю і задавальненнем успрынялі прысутныя прамову наступнага аратара, намесніка старшыні райвыканкама па будаўніцтве і жылёва-камунальнай гаспадарцы Аляксея Янкевіча.

Напрыканцы ўрачыстага паседжаня самадзейныя артысты парадавалі сваіх калег цудоўным канцэртам.

# Польскую візу цяпер можна будзе атрымаць у Віцебску

■ Кастусь Шыталь

**Жыхары Віцебскай вобласці, якія едуць у Польшчу і хочуць атрымаць кароткатэрміновую (да 90 дзён знаходжання на тэрыторыі Шэнгенскай зоны) візу, могуць зрабіць гэта ў латвійскім консульстве ў Віцебску.**

З 18 сакавіка 2013 года ўступіла ў сілу пагадненне да Дагавора паміж Урадам Рэспублікі Польшча і Урадам Латвійскай Рэспублікі аб узаемным візавым прадстаўніцтве. Паводле пагаднення, Латвійская Рэспубліка пачне выдаваць візы ад імя Рэспублікі Польшча ў консульскай акрузе Консульства Латвійскай Рэспублікі ў Віцебску, якая ахоплівае Віцебскую вобласць.

Візавы Кодэкс не ўводзіць абавязку падачы візавых заяў у прадстаўніцтве ад грамадзян, якія жывуць у консульскай акрузе дадзенай дыпламатычнай установе.

Консульскія ўстановы Рэспублікі Польшча ў Рэспубліцы Беларусь, уключая Консульскі аддзел Пасольства Рэспублікі Польшча ў Мінску, у які ўваходзіць Віцебская вобласць, будуць надалей прымаць візавыя заявы ад прэтэндэнтаў з вышэйпададзенай вобласці, паведамляе сайт амбасады Рэспублікі Польшча ў Мінску.

Кантакты і расклад працы консульства Латвіі ў Віцебску можна даведацца на сайце http://www.mfa.gov.lv/by/belarus/konsulate/

# Другі раз з пачатку года ў Беларусі даражэе звадкаваны газ

**21 сакавіка ў Беларусі на 1,3% вырастуць межавыя максімальныя адпускныя цэны на газы вуглевадародныя звадкаваныя паліўныя для камунальна-бытавога спажывання. Гэта прадугледжана пастановай Мінэканомікі ад 5 сакавіка 2013 года № 21 «Аб унясенні зменаў у пастанову Міністэрства эканомікі Рэспублікі Беларусь ад 31 студзеня 2013 года № 10».**

Як паведамляе сайт міністэрства, павелічэнне межавых максімальных адпускных цэн ажыццёўлена з мэтай «забяспечыць эфектыўнасць фінансава-эканамічнай дзейнасці нафтаперапрацоўчых арганізацый» пры рэалізацыі газаў арганізацыям канцэрна «Белпалівагаз», а таксама юрыдычным асобам і індывідуальным прадпрымальнікам для запраўкі ў балоны.

Пастанова не тычыцца рознічных цэн на газ для насельніцтва, у тым ліку на газ, што рэалізуецца ў малалітражных балонах.

З пачатку 2013 года гэта другое павелічэнне адпускных цэн на звадкаваныя газы. Першае адбылося 9 лютага. Тады цэны на звадкаваны газ для аўтатранспарту выраслі на 8,5%, для камунальна-бытавога спажывання — на 2,6%, для рэалізацыі ў малалітражных балонах (ад 1 да 27 л) — на 4,8%.

*Ганна Афоніна, БелаПАН.*

# Фінансавы крызіс на Кіпры не адаб'ецца на рынку банкаўскіх паслуг Беларусі, мяркуе расійскі банкір

**Фінансавая сітуацыя на Кіпры не адаб'ецца на становішчы рынку банкаўскіх паслуг Беларусі. Такое меркаванне выказаў 22 сакавіка на прэс-канферэнцыі ў Мінску намеснік старшыні праўлення расійскага ААТ «Газпромбанк», намеснік старшыні савета дырэктараў ААТ «Белгазпрамбанк» Аляксандр Собаль.**

«Мы з калегамі з найбуйнейшых банкаў актыўна сочым за развіццём сітуацыі. На нашу думку, у найбуйнейшых расійскіх банкаў ніякіх значных стратаў для балансаў не будзе», — зазначыў Аляксандр Собаль.

«Вядома, мы зараз яшчэ не ведаем фінальную канфігурацыю таго рашэння, якое будзе прынята на Кіпры, але нават калі б гэта ўводзілася ў самым горшым першапачатковым варыянце, з прымусовым 10-працэнтным падаткам, мы для сябе лічылі, што страты былі б абсалютна невялікімі», — сказаў ён.

«Таму ўжо тым больш на «Белгазпрамбанку» і на рынку банкаўскіх паслуг Беларусі, на мой погляд, гэта адбіцца ніяк не павінна», — мяркуе расійскі банкір.

*Аляксей Арэшка, БелаПАН.*

# У Беларусі распрацаваная методыка лячэння туберкулёзу ствалавымі клеткамі

**У Беларусі распрацаваная методыка лячэння туберкулёзу ствалавымі клеткамі, паведаміў дырэктар Рэспубліканскага навукова-практычнага цэнтра пульманалогіі і фтызіятрыі Генадзь Гурэвіч 21 сакавіка на прэс-канферэнцыі ў Мінску.**

Паводле яго слоў, методыка прызначана для пацыентаў з лекава ўстойлівай формай туберкулёзу. У працэсе лячэння ў пацыента бяруць клеткі коснага мозгу і вырошчваюць іх у пэўных умовах, а затым паўторна ўводзяць гэтаму ж пацыенту. «Гэта прыводзіць да таго, што павялічваецца супраціўляльнасць арганізма да інфекцыі, павышаецца эфектыўнасць лячэння», — сказаў Гурэвіч. Ён зазначыў, што гэтая методыка пакуль рэкамендавана як дадатковая, яе прымяненне не выключае неабходнасць хіміятэрапіі.

Як паведаміў Гурэвіч, поўны курс лячэння туберкулёзу ствалавымі клеткамі ўжо прайшлі 30 пацыентаў, даказана «дастаткова высокая» эфектыўнасць методыкі. Аднак яшчэ патрабуецца ацаніць аддаленыя наступствы яе прымянення: лекава ўстойлівы туберкулёз лечыцца на працягу доўгага часу — два гады і больш.

Як зазначыў спецыяліст, адна з цяжкасцяў у лячэнні лекава ўстойлівага туберкулёзу — правільна падабраць падтрымліваючую тэрапію на фоне прыёму пацыентам бактэрыяльных прэпаратаў. Такія супрацьтуберкулёзныя прэпараты выклікаюць вялікую колькасць пабочных рэакцый, якія неабходна купіраваць, каб не давялося адмяняць лячэнне.

Паводле інфармацыі, у 2012 годзе на меры па барацьбе з туберкулёзам у межах дзяржаўнай праграмы «Туберкулёз» зрасходавана больш за 43,5 млрд. рублёў, у тым ліку 59,6% — са сродкаў Глабальнага фонду для барацьбы са СНІД, туберкулёзам і малярыяй, астатнія — з мясцовых бюджэтаў.

Зараз у Беларусі налічваецца крыху менш за 10 тыс. хворых на туберкулёз.

*Анастасія Янушэўская, БелаПАН.*

**В.Л. Белы,**
*старэйшы інспектар ліцэнзійна-кантрольнай групы Глыбоцкага аддзела Дэпартамента аховы МУС Рэспублікі Беларусь, маёр міліцыі.*

# Хочаш ахоўваць маёмасць – атрымай ліцэнзію!

Шмат хто выкарыстоўвае штатных вартаўнікоў і ведамасную ахову для забеспячэння бяспекі і захаванасці маёмасці, а таксама лічаць, што ажыццяўляць праектаванне, мантаж, наладку і тэхнічнае абслугоўванне сродкаў і сістэм аховы (ахоўная сігналізацыя, відэаназіранне) можна проста так, не падазраючы, што парушаюць закон. Прывядзём стандартную сітуацыю: ЧУП вырашыла адкрыць гандлёвы аб'ект і каб забяспечыць захаванасць сваёй маёмасці, прыняла рашэнне запрасіць «спецыяліста» па ўсталёўцы ахоўнай сігналізацыі і відэаназірання, як звычайна бывае, па парадзе сяброў ці знаёмых, якім гэты спецыяліст ужо аказаў такую паслугу. Гэты чалавек, звычайна пад полагам ночы, усталёўвае ахоўную сігналізацыю, відэаназіранне на аб'екце, не маючы, як правіла, паводле заканадаўства, нічога (праекта, тэхнічных пашпартоў на ахоўныя апавяшчальнікі), блакуючы тактычна не пісьменна слабыя месцы (у патрэбны момант сігналізацыя проста не спрацуе і будзе здзейснены крадзеж) і адпаведна штучна завышаюць аб'ёмы выкананых работ (дзе можна ўсталяваць адзін апавяшчальнік – усталёўваюць 2 ці 3) і, не маючы на гэта наогул права, г.зн. адмысловага дазволу (ліцэнзіі) на ахоўную дзейнасць, у частцы правядзенне работ па праектаванні, мантажы, наладцы і тэхнічным абслугоўванні сродкаў і сістэм аховы, тым самым груба парушае заканадаўства пра ліцэнзаванне і ў адпаведнасці са арт. 23.57 адміністрацыйнага кодэкса Рэспублікі Беларусь за такія дзеянні «вядучы спецыяліст» у галіне ахоўнай дзейнасці атрымае штраф ад 10 да 100 базавых велічынь.

Паводле арт.23 Закона ад 08.11.2006 года №175-3 «Пра ахоўную дзейнасць у Рэспубліцы Беларусь» (далей – Закон) юрыдычныя асобы, якія не валодаюць правам стварэння ваенізаванай аховы, маюць права ажыццяўляць ахоўную дзейнасць сіламі работнікаў аховы, у т.л. ствараць для гэтых мэт падраздзяленне аховы. Пры гэтым, у адпаведнасці са арт.9 Закона, такая дзейнасць ажыццяўляецца на падставе адмысловых дазволаў (ліцэнзій) на ахоўную дзейнасць, калі іншае не прадугледжана ч.3-5 арт.9 Закона. Пра тое, што такая дзейнасць ліцэнзуецца, кажа і частка 37 Палажэння «Пра ліцэнзаванне асобных відаў дзейнасці», зацверджанае Указам Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь №450 ад 01.09.2010 года. Такім чынам, калі прадпрыемства, установу ці арганізацыю ахоўвае вартаўнік ці іншыя работнікі, якія здзяйсняюць ахоўныя функцыі, атрыманне ліцэнзіі абавязковае. За безліцэнзійную дзейнасць у адпаведнасці са арт. 23.57 адміністрацыйнага кодэкса Рэспублікі Беларусь прадугледжана адміністрацыйная адказнасць у выглядзе штрафу ад 10 да 100 базавых велічынь.

Для падаўжэння тэрміну дзеяння ліцэнзіі ліцэнзіят абавязаны не пазней чым за 1 месяц і не раней чым за 3 месяцы да заканчэння гэтага тэрміну падаць у адпаведны ліцэнзавальны орган заяву пра падаўжэнне тэрміну дзеяння ліцэнзіі з прыкладаннем дакумента пра выплату дзяржмыты за падаўжэнне тэрміну дзеяння ліцэнзіі. Калі ж тэрмін дзеяння ліцэнзіі не мінуў, але была зменена назва юрыдычнай асобы, яго месца размяшчэння, уласнік і г.д., ліцэнзіят абавязаны ў месячны тэрмін звярнуцца ў ліцэнзавальны орган для занясення ў ліцэнзію змен і (ці) дадаткаў. У выпадку рэарганізацыі юрыдычнай асобы ў форме зліцця, пераўтварэння, вылучэння ці падзелу, зноў створаная юрыдычная асоба пры намеры ажыццяўляць від дзейнасці рэарганізаванага прадпрыемства, які ліцэнзуецца, у месячны тэрмін з дня сваёй




рэгістрацыі, абавязана падаць у адпаведны ліцэнзавальны орган заяву з прыкладаннем неабходных дакументаў для выдачы новай ліцэнзіі на ахоўную дзейнасць. Пры парушэнні ліцэнзіятам указанага тэрміну дзеянне ліцэнзіі спыняецца на наступны дзень пасля яго заканчэння без прыняцця ліцэнзавальным органам рашэння пра спыненне дзеяння ліцэнзіі. Бланкі адмысловых дазволаў (ліцэнзій) з'яўляюцца бланкамі строгай справаздачнасці і падлягаюць абавязковай здачы ў ліцэнзавальны орган пасля спынення дзеяння.

Ліцэнзавальны орган і мантажная група сродкаў і сістэм аховы размешчаны па адрасе: г. Глыбокае, вул. Мінская д.1, Глыбоцкі аддзел Дэпартамента аховы МУС Рэспублікі Беларусь, тэлефон для даведак: 2-12-63; 2-33-63.




*Юлю Скрабатун*

**віншуем з Днём нараджэння!**

Будь всегда счастливой, Юля!
Ярко, пламенно свети,
Словно солнышко в июле,
Дальновидно вдаль гляди,

Будет будущее ярким
И прекрасным, без забот!
Пусть удача шлет подарки
И ведет тебя вперед!

*Ад дзядзькі Уладзіміра*

*Леаніду Часлававічу Рабіза*

**Ад усёй душы віншуем з 55-годдзем!**

Махни рукой на эту дату,
Не подлежит она возврату.
И, не взирая на года,
Душа пусть будет молода!
Желаем быть всегда счастливой,
Доброй, милой, терпеливой,
Быть всегда немного новой,
Жизнерадостной, здоровой,
Быть подольше молодой
И не стариться душой!



*Сын Дзіма, нявестка Наташа, унук Стасік, сваты.*

## МНС інфармуе
**на 25.03.2013 года:**

**Віцебская вобласць:**
Пажараў – 291;
Гібель людзей – 51, з іх 1 дзіця;
Урон –1998.9 млн. руб.
**Глыбоцкі раён:**
Пажараў – 20;
Гібель людзей – 4, з іх дзяцей няма;
Урон – 203.7 руб.

**Аляксей Протас,**
*начальнік Глыбоцкай міжраённай інспекцыі аховы жывёльнага і расліннага свету.*

# Хутка пачнецца сезон нарыхтоўкі сокаў

**Наступіла вясна, хутка пачнецца сезон нарыхтоўкі драўняных сокаў і насельніцтву неабходна ведаць парадак і правілы іх нарыхтоўкі.**

Паводле пункта 2 Правілаў нарыхтоўкі другарадных лясных рэсурсаў і ажыццяўлення пабочнага лесакарыстання, зацверджаных пастановай Міністэрства лясной гаспадаркі Рэспублікі Беларусь ад 20.03.2001 года №37/36: «Юрыдычныя асобы і грамадзяне павінны ажыццяўляць нарыхтоўку драўняных сокаў на землях лясного фонду ў адпаведнасці з Правіламі нарыхтоўкі другарадных лясных рэсурсаў і ажыццяўлення пабочнага лесакарыстання.

Грамадзянам падаецца магчымасць вольнай нарыхтоўкі драўняных сокаў толькі на адмыслова адведзеных для падсочкі ўчастках лясного фонду, з выкананнем тэхналогіі падсочкі, а таксама магчымасць набыцця нарыхтаванага соку ў структурных падраздзяленнях юрыдычных асоб, якія вядуць лясную гаспадарку (лясгасы). У астатніх месцах на землях лясного фонду нарыхтоўка драўняных сокаў забараняецца.

У адпаведнасці з пунктамі 12-13 Правілаў, нарыхтоўка драўняных сокаў забараняецца:

- у прыбярэжных палосах рэк, азёр, вадасховішчаў і іншых водных аб'ектаў, у межах палос адводу чыгуначных і аўтамабільных дарог, іншых транспартных і камунікацыйных ліній;
- у населеных пунктах ;
- у дэндралагічных парках, батанічных садах ;
- у месцах рассялення і вырастання дзікіх жывёльных і дзікарослых раслін, аднесеных да відаў, уключаных у Чырвоную кнігу Рэспублікі Беларусь;
- у межах акруг і зон санітарнай аховы курортаў ;
- у месцах масавага адпачынку грамадзян, паркі, скверы, і г.д.
- у межах гісторыка-культурных запаведнікаў, мемарыяльных паркаў, археалагічных помнікаў ;

Пры нарыхтоўцы соку на тэрыторыі, дзе гэта забаронена, або без дазваленчага дакумента, калі яго атрыманне абавязковае, альбо не ў адпаведнасці з ім, прадугледжана адміністрацыйная адказнасць у адпаведнасці з ч.1 арт. 15.26 Ко АП Рэспублікі Беларусь – цягне накладанне штрафу ў памеры да 20 базавых велічынь. Нароўні з выплатай штрафу, вінаватыя абавязаны пакрыць урон, прычынены навакольнаму асяроддзю пашкоджаннем дрэў, па таксах, зацверджаных Указам Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь ад 24.07.2008 года № 348 «Пра таксы для вызначэння памеру пакрыцця ўрону, прычыненага навакольнаму асяроддзю». Пры немагчымасці вынятку незаконна нарыхтаванага драўнянага соку ў юрыдычных і фізічных асоб спаганяецца яго кошт паводле таксаў, зацвердажанай Пастановай Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь ад 20.07.2001 года № 1073 «Пра спагнанне кошту незаконна здабытай драўніны і іншай лясной прадукцыі пры немагчымасці іх вынятку ў юрыдычных і фізічных асоб».

Пра месцы, дзе дазволена нарыхтоўка бярозавага соку, Вы можаце даведацца ў лясніцтвах па месцы жыхарства або ў мясцовым лясгасе.

ГЛХУ «Глыбоцкі доследны лясгас» і ГЛХУ «Пастаўскі лясгас» у вясновы перыяд актыўна займаюцца нарыхтоўкай і рэалізацыяй бярозавага соку насельніцтву, кошты на сок вельмі даступныя, а таму міжраённая інспекцыя аховы жывёльнага і расліннага свету рэкамендуе грамадзянам набываць сок наўпрост у нарыхтоўшчыкаў, а не займацца саманарыхтоўкай. Тады Вы надзейна пазбегнеце ўсіх непрыемнасцяў, а набыты ў афіцыйных нарыхтоўшчыкаў сок даставіць Вам радасць.

Па ўсіх пытаннях нарыхтоўкі драўняных сокаў можна звярнуцца ў лясніцтвы па месцы жыхарства, лясгас або ў Глыбоцкую міжрайінспекцыю па тэлефонах: 8-02156-28670, маб.: 897-23-02, 890-55-28, 249-45-49.

# Цяпло прыйдзе з наступнага тыдня, ад 4 красавіка – суцэльны плюс

**Вясновае цяпло прыйдзе ў Беларусь у красавіку. Пра гэта паведаміў начальнік службы гідраметэаралагічных прагнозаў Рэспубліканскага гідраметэацэнтра Дзмітрый Рабаў.**

Як прагназуюць сіноптыкі, ад 4 красавіка плюсавыя тэмпературы ўстановяцца на ўсёй тэрыторыі Беларусі.

«Чатыры месяцы зімы - гэта, вядома, шмат, але трываць засталося нядоўга — да наступных выходных.

Да пятніцы надвор’е будзе вызначаць вельмі халодны антыцыклон.

Пры праясненнях тэмпература ўначы чакаецца да мінус 15–20 градусаў, днём – ад 0 да мінус 6.

Але з 29 сакавіка ў атмасферы адбудзецца перазагрузка, г.зн. паўночны вецер памяняецца на паўднёва-заходні. Будзе тэмпература больш цёплае паўднёвае паветра, і ўжо ў нядзелю тэмпература ўначы складзе ад 0 да мінус 6, удзень — ад 0 да плюс 6, а ў паўднёва-заходніх раёнах будзе да 8 градусаў цяпла «, – сказаў Дзмітрый Рабаў.

*БелТА.*

